ЦАНА 15 КАП.

*1-шы год выдання*

# БЮЛЕТЭНЬ

## НАРОДНАГА КАМІСАРЫЯТА АСВЕТЫ БССР

Менск, 1 ЛІСТАПАДА 1934 г.

**№ 3**



### Змест

# ПАСТАНОВА

*Савета народных камісараў БССР. Гор. Менск, 4-га верасня 1934 г.*

## Аб перабудове школ для дарослых

1. Зацвердзіць пастанову ЦСПСБ, НКАсветы і ЦС Т-ва «Прэч непісьменнасць» аб перабудове школ для дарослых, устанавіўшы з 1934—35 навучальнага года адзіную пачатковую школу з 3-ма гадамі навучання за 4 класа (1-шы—падрыхтоўчы клас, 2-гі асноўны, 3-ці выпускны).

Далейшая вучоба дарослых пасля сканчэння пачатковай школы павінна ісці па лініі агульнаадукацыйных школ павышанага тыпу няпоўна-сярэдніх і сярэдніх школ, якія ўтрымліваюцца за кошт мясцовых бюджэтаў, а таксама па лініі вытворча-тэхнічных школ (вячэрнія рабфакі, ПТК і інш.).

2. Адзначыць, што вячэрнія школы дарослых на чыгунцы асабліва дрэнна працавалі ў 1933—34 навучальным годзе ў сувязі з тым, што гаспадарчыя арганізацыі чыгункі адмаўляліся фінансаваць гэтыя школы.

Прасіць дырэкцыю МБВ і Заходніх чыгунак даць указанні па сваіх раёнах аб утрыманні гэтых школ гаспадарчымі арганізацыямі чыгункі.

3. Адзначыць недастатковую работу прафсаюзных арганізацый з культармейцамі ў справе ўсеагульнага навучання дарослых, прасіць ЦСПСБ забяспечыць па лініі ЦП саюзаў, Горрайпрофсаветаў і ФЗМК бесперабойную работу школ і поўнае скарыстанне сродкаў, вызначаных на гэту мэту.

4. Абавязаць горсаветы, РВК, сельскія саветы і дырэктароў прадпрыемстваў забяспечыць школы дарослых намяшканнямі для заняткаў, апалам і газаю, нароўні са школамі соцвыхавання. За зрыў заняткаў з прычыны адсутнасці паліва, памяшкання і газы адказвае на прадпрыемстве—дырэктар, а ў вёсцы—старшыня сельсавета і старшыня калгаса.

5. Прапанаваць Дзяржвыдавецтву у 2-хдэкадны тэрмін закончыць выпуск падручнікаў для вячэрніх школ дарослых і не пазней 25-XI г.г. далажыць СНК аб выкананні.

6. Даручыць НКАсветы забяспечыць вячэрнія школы нацменшасцей падручнікамі на іх роднай мове.

Прапанаваць НКАсветы на працягу 1935 года правесці курсы па падрыхтоўцы і перападрыхтоўцы кадраў для сістэмы гэтых школ, правесці ўлік маючыхся кадраў, замацаваўшы іх на працы па вячэрняй асвеце дарослых.

7. Даручыць Белкаапсаюзу праверыць засылку ў раёны патрэбнай колькасці лямп, шкла, газы і інш. для вячэрніх школ.

8. Прасіць прэзідыум ЦВК БССР у бліжэйшы час заслухаць справаздачу ЦС Т-ва «ПН» аб рабоце па ліквідацыі непісьменнасці.

9. Даручыць камісіі ў складзе тт. Чарнушэвіча, Хацкевіча, Балціна, Кавальчука і Чорнага на працягу дэкады абмеркаваць пытанне аб фінансаванні школ дарослых і свае прапановы падаць на зацверджанне СНК.

СТАРШЫНЯ СНК БССР
ГАЛАДЗЕД

КІРАЎНІК СПРАВАМІ СНК
ШАБАЛТАС

# ПАСТАНОВА

*Савета народных камісарaў БССР. Гор. Менск, 14-га кастрычніка 1934 г.*

## Аб фінансаванні школ дарослых

1. Пацвердзіць п. 7 пастановы СНК БССР ад 25-VII 1932 г. «Аб арганізацыі сістэмы асветы сярод дарослых» (З. З. БССР за 1932 г., № 50, арт. 229), абавязаўшы наркаматы і гаспадарчыя арганізацыі ўтрымліваць сетку школ вячэрняй рабочай асветы.

2. Катэгарычна прапанаваць упаўнаважанаму НК Леспрома тав. Розіну забяспечыць фінансаванне сеткі школ дарослых на прадпрыемствах, падпарадкаваных упр. НК Леспрома.

**Нам. старшыні СНК БССР** **А. СААКЯН.**

---

# ПАСТАНОВА

*Савета народных камісарaў БССР. Гор. Менск, 30-га студзеня 1934 г.*

## Аб мерапрыемствах па ахове кніжных фондаў у бібліятэках

Адзначаючы зусім нездавальняючую пастаноўку ўліку кніг у бібліятэках і наяўнасць безгаспадарчых і безадказных адносін да захавання іх, Совет народных камісараў БССР пастанаўляе:

1. Забараніць усякае выключэнне, продаж і перадачу ў макулатуру кніг з дзяржаўных, навуковых, палітасветных, прафсаюзных і іншых мясцовых бібліятэк без асобага дазволу ў кожным паасобным выпадку адпаведных арганізацый, якім падпарадкаваны гэтыя бібліятэкі, і без заключэння Цэнтральнай бібліятэчнай камісіі Народнага камісарыята асветы.

2. Арганізаваць пры дзяржаўнай бібліятэцы імя В. І. Леніна цэнтральны кніжны фонд, у які павінны перадавацца ўсе безгаспадарчыя кніжныя фонды і выданні, якія могуць быць вылучаны з дазволу цэнтральнай бібліятэчнай камісіі Народнага камісарыята асветы з масавых бібліятэк, а таксама неліквідаваныя рэшткі выдавецкіх складаў у неабходнай колькасці экземпляраў, якія могуць быць выкарыстаны для навуковай работы, укамплектавання бібліятэк і абмену з другімі бібліятэкамі.

Прапанаваць Народнаму камісарыяту асветы распрацаваць палажэнне аб цэнтральным кніжным фондзе пры дзяржаўнай бібліятэцы імя В. І. Леніна.

3. Прапанаваць гарадскім советам і раённым выканаўчым камітэтам забяспечыць свае бібліятэкі (сельскія, раённыя, гарадскія, дзіцячыя і інш.) спецыяльнымі памяшканнямі, прыстасаванымі для нармальнага захавання кніг, і абсталяваць іх адпаведным інвентаром.

4. Забараніць высяленне, а таксама перасяленне бібліятэк без прадастаўлення роўнацэнных памяшканняў, якія забяспечылі-б нармальную работу бібліятэкі і захаванне кніжнага фонда.

5. Забараніць правядзенне ўсякага роду сходаў і нарад у памяшканнях кнігасховаў.

6. Прапанаваць Народнаму камісарыяту асветы забяспечыць правядзенне ва ўсіх бібліятэках мінімума бібліятэчнай тэхнікі па ўліку кніжнага фонда і рабоце бібліятэк (інвентарныя кнігі, прыхода-расходныя

кнігі, фармуляры чытачоў, каталожныя карткі, формы статыстычнай справаздачнасці) і абавязвае штампаванне бібліятэчных кніг уласнай пячаткай бібліятэкі.

7. Прапанаваць гарадскім советам і раённым выканаўчым камітэтам у каштарысах на ўтрыманне бібліятэк прадугледзець сродкі на правядзенне мерапрыемстваў. забяспечваючых захаванне кніжнай маёмасці.

8. Абавязаць гарадскія советы і раённыя выканаўчыя камітэты забяспечыць арганізацыю спецыяльных рамонтных і пераплётных майстэрань.

9. Устанавіць персанальную адказнасць загадчыкаў бібліятэкамі і загадчыкаў адпаведнымі аддзеламі больш буйных бібліятэк за камплектаванне бібліятэк. захаванне кніжнай маёмасці бібліятэк і своечасовы зварот кніг у бібліятэку.

10. У мэтах захавання кніжных фондаў устанавіць як правіла выдачу кніг з бібліятэк-перасовак арганізацыям і ўстановам пад матэрыяльную гарантыю за захаванне кніг.

11. За псаванне і страту кніг, атрыманых з бібліятэк, чытачы нясуць матэрыяльную адказнасць.

За злоснае знішчэнне і кражу кніг з бібліятэк вінаватыя прыцягваюцца да крымінальнай адказнасці.

12. Усякае паступленне і выбыццё кніг з бібліятэк павінна афармляцца дакументамі (актамі, накладнымі).

13. Перадача бібліятэкі адным загадчыкам другому павінна рабіцца абавязкова па акту, зацверджанаму загадчыкам Аддзела народнай асветы, а вясковых бібліятэк—сельсоветам.

14. Абавязаць гарадскія советы і раённыя выканаўчыя камітэты забяспечыць ва ўсіх бібліятэках правядзенне абавязковых процілажарных правіл (устанаўленне агнетушыльнікаў, забарона курэння і т.д.).

15. Прапанаваць дзяржаўнаму выдавецтву Беларусі і Беларускаму аддзяленню ОГИЗ'а забяспечыць водпуск літаратуры бібліятэкам у апрацаваным выглядзе.

Нам. старшыні Совета народных камісараў БССР

А. БАЛЦІН.

Нам. кіраўніка справамі СНК і эканомсовета БССР.

МАЦКО.

---

# ПАСТАНОВА

## *Прэзідыума ЦСПСБ, НКАсветы і СПН. Гор. Менск, 11-га жніўня 1934 г.*

## Аб выніках І усебеларускай нарады па ліквідацыі непісьменнасці

1. Пастановы І усебеларускай нарады па ліквідацыі непісьменнасці зацвердзіць. Лічыць неабходным выданне іх асобнай брашурай.

2. Згадзіцца з новай сістэмай пабудовы школ дарослых (праект нарады), пры якой з новага 1934-35 навучальнага года ўстанаўліваецца адзіная пачатковая агульна-адукацыйная школа з 3-гадовым тэрмінам навучання за 4 класы. Прасіць СНК зацвердзіць гэтае рашэнне.

3. У сувязі з стварэннем новага тыпу школы дарослых, якая патрабуе моцнай базы, прасіць СНК БССР абавязаць гаспадарчыя наркаматы ўключыць у свае бюджэты ўтрыманне гэтых школ замест лікпунктаў. якія дагэтуль на прадпрыемствах звыш 500 рабочых) утрымліваліся за кошт гаспадарчых органаў.

4. Адзначаючы зрыў работы школ дарослых на чыгунцы з прычыны адмаўлення фінансаваць іх з боку гаспадарчых органаў, прасіць

начпалітаддзела МББ і Заходніх чыгунак даць тэрміновыя ўказанні адпаведным участкам і аддзяленням аб узяцці гэтых школ на ўтрыманне гаспадарчых арганізацый чыгункі.

5. Прасіць ЦК саюзаў РЖС, тарфянікаў, керамікаў і лесасплаў, у сувязі з вялікім процантам непісьменных і малапісьменных рабочых, па лініі гэтых саюзаў у БССР аб увядзенні ў штаты іх ЦП саюзаў спецыяльнай адзінкі па рабоце са школаю дарослых.

6. Абавязаць ДВБ, ЦП саюзаў друкароў, папернікаў і працасветы прыняць рад мерапрыемстваў, якія-б забяспечылі выпуск неабходных падручнікаў для школ дарослых да 1-га верасня.

7. Прасіць ЦК КП(б)Б даць указанні адпаведным арганізацыям аб выпуску ўкладачнай старонкі для малапісьменных пры газеце «Калгаснік Беларусі» (1 раз у дэкаду) і аб сістэматычным асвятленні работы школ дарослых у цэнтральным і раённым друку.

8. У сувязі з набліжаючымся XV-годдзем ленінскага дэкрэта аб ліквідацыі непісьменнасці і X-годдзем т-ва «ПН» — абвясціць культпаход імя юбілеяў пад знакам канчатковай ліквідацыі рэштказ непісьменнасці, умацавання і ўзняцця ролі т-ва «ПН» у справе ўсенавучу дарослых.

9. ГРПС, ГарАНА, Райсоветам «ПН», ЦП саюзаў і РМК у сваёй рабоце па школе дарослых кіравацца рашэннямі I усебеларускай нарады па гэтаму пытанню.

---

# ЗАГАД № 1223

## *Па Народнаму камісарыяту асветы БССР. Г. Менск 15 кастрычніка* 1934 г.

## Аб уключэнні ўсіх навучальных і інш. культасветных установ у вытворчы паход імя VII усесаюзнага і XI усебеларускага з'ездаў советаў

Не гледзячы на ўказанні НКА аб неабходнасці безадкладнага ўключэння ўсіх навучальных і іншых культасветных установ у вытворчы паход імя VII усесаюзнага і XI усебеларускага з'ездаў советаў, рад РайАНА (Чашніцкі, Асіпавіцкі, Віцебскі і інш.) зусім не разгарнулі масавай работы сярод настаўніцтва, бацькоў, вучняў, сярод студэнцтва, не распрацавалі канкрэтных паказчыкаў удзелу навучальных установ у падрыхтоўцы да з'езда, у разгортванні далейшай барацьбы за павышэнне якасці сваёй работы. Рад раёнаў (Гомель, Слуцк) абмежаваліся дэкларацыямі ў гэтай важнейшай справе.

Такое становішча сведчыць аб тым, што рад РайАНА, дырэктароў навучальных і культасветных установ недаацанілі ўсята палітычнага значэння такой важнай падзеі ў жыцці СССР і БССР, як VII і XI з'езды советаў.

Лічу такое становішча абсалютна нецярпімым і катэгарычна патрабую ад усіх загадчыкаў РайАНА, дырэктароў ВНУ, тэхнікумаў, рабфакаў, школ і інш. культасветных установ безадкладна прыступіць да масавай растлумачальнай работы ў сувязі са з'ездам советаў і да распрацоўкі канкрэтных паказчыкаў і абавязацельстваў як па падрыхтоўцы вучняў, студэнцтва да ўдзелу ў падрыхтоўчай кампаніі да з'ездаў, так і ў мабілізацыі актыўнасці настаўніцтва, студэнтаў і вучняў на барацьбу за далейшае павышэнне якасці работы.

Загадваю:

1. Тав. Лешчынскаму распрацаваць план выкліку ў НКА загадчыкаў РайАНА для даклада па арганізацыі вытворчага паходу імя з'езду советаў.

2. Правесці 29 кастрычніка радыёпераклічку па пытаннях уключэння раёнаў у вытворчы паход і падрыхтоўкі да кастрычніцкіх свят. Даручыць арганізацыю радыёпераклічкі тт. Кантаровічу (старшыня), Рамановічу, Рабкову і Паляўцову.

3. Тав. Башкевічу правесці 23 кастрычніка агульны сход навуковых работнікаў і студэнцтва БДУ, ВПІ і тэхнікумаў па пытанню ўключэння ў вытворчы паход.

4. Абавязаць РайАНА і дырэктароў ВНУ, тэхнікумаў, рабфакаў, тэатраў, бібліятэк і інш. культасветных устаноў 15-га і 1-га кожнага месяца інфармаваць начальніка НКА аб рэалізацыі паказчыкаў вытворчага паходу.

5. Зацвердзіць паказчыкі, распрацаваныя ўпраўленнямі і аддзеламі НКА для ўстаноў НКА.

6. Звярачаю ўвагу загадчыкаў РайАНА і дырэктароў усіх устаноў НКА (школы, ВНУ, тэхнікумы, бібліятэкі, тэатры, дзіцячыя дамы, сады, дамы соцкультуры і т. д.), што падрыхтоўка да з'езда павінна на аснове шырокаразгорнутага соцспаборніцтва і ўдарніцтва даць канкрэтныя вынікі па далейшаму пад'ёму якасці работы, выпаўнення планаў і праграм і падняццю культуры вытворчага працэса.

Адначасова з гэтым кожная навучальная ўстанова павінна канкрэтна прадумаць практычныя мерапрыемствы па абслугоўванню перавыбарчай кампаніі ў советы (разноска позваў, упрыгожванне памяшканняў, культурнае абслугоўванне, выстаўкі і інш.).

НАРОДНЫ КАМІСАР АСВЕТЫ
БССР ЧАРНУШЭВІЧ.

---

# ЗАГАД № 1222

*Па Народнаму камісарыяту асветы БССР.*
*Г. Менск, 15 кастрычніка 1934 г.*

## Аб рэагаванні на допісы газет, дасылаемых у РайАНА і НКА

Адзначаючы нездавальняючую пастаноўку справы ўліку і рэагавання ўпраўленняў і аддзелаў НКА і РайАНА на допісы, дасылаемыя газетамі «ЗКП», «Звязда», «Рабочий» і інш., што пацвярджаецца вывадамі брыгады «ЗКП», якая праводзіла абследванне пастаноўкі ўліку і рэагавання на допісы па НКА і яго сістэме, загадваю:

1. Начальніку ўпраўлення справамі НКА т. Паляўцову персанальна і сістэматычна правяраць па НКА пастаноўку ўліку і рэагавання на допісы газет, інструктуючы тэхнічны апарат па пытаннях ўліку і захавання як допісаў, так і адказаў на іх у газеты. Абавязваю т. Паляўцова ў 5-дзённы тэрмін пераглядзець існуючую тэхніку і форму ўліку паступаючых допісаў з такім разлікам, каб было відаць праходжанне справы ад пачатку да канца па рэагаванню на допісы.

Паставіць т. Паляўцову на від за меўшыя месца прарывы ў рэгістрацыі допісаў і за адсутнасць з яго боку кантролю па пастаноўцы ўліку па гэтай справе ў упраўленнях і аддзелах.

2. Выдзеліць па наркамату адказнымі за рэагаванне на допісы па школьнаму ўпраўленню, упраўленню падрыхтоўкі настаўнікаў—нам. начальнікаў, па ўпраўленню мас-

тацтва — т. Прагіна, а па астатніх аддзелах — загадчыкаў аддзелаў.

3. Абавязаць адказных за ўлік па рэагаванню на допісы па наркамату завесці ў сваіх упраўленнях і аддзелах, на аснове даных кіраўніцтвам спраў форм, точны ўлік паступаючых допісаў.

Рэагаванне на допісы павінна быць у дзень паступлення іх у ўпраўленне ці аддзел з абавязковым паведамленнем рэдакцыі газеты аб выніках расследвання допіса. Абавязаць адказных за рэагаванне завесці асобныя справы па захаванню дасланых матэрыялаў з рэдакцый газет.

4. Катэгарычна патрабую ад усіх аддзелаў і ўпраўленняў безадкладнага выкананьня гэтага загада і ліквідацыі маючыхся недахопаў у гэтай справе.

5. За сістэматычнае нерэагаванне на дасылаемыя НКА матэрыялы для расследвання паступіўшых з газет допісаў, аб'яўляю суровую вымову загадчыку Бабруйскага РайАНА т. Цэханскаму.

Абавязваю ўсіх загадчыкаў РайАНА безадкладна выконваць ўсе патрабаванні ўпраўленняў і аддзелаў НКА па расследванню і рэагаванню на допісы.

Кіраўніцтву спраў разаслаць распрацаваныя формы ўліку допісаў па РайАНА.

Народны камісар асветы БССР
**ЧАРНУШЭВІЧ.**

---

# ІНСТРУКЦЫЯ

## аб парадку зняцця з работы настаўнікаў, якія не маюць адпаведнай асветы і не жадаюць павышаць сваю кваліфікацыю

На падставе пастановы Совета народных камісараў БССР ад 3-III-34 г. аб зняцці з работы настаўнікаў, не маючых адпаведнай адукацыі і не жадаючых павышаць сваю кваліфікацыю, Народны камісарыят асветы БССР і Цэнтральнае праўленне саюза Працасветы БССР устанаўліваюць наступны парадак зняцця з работы такіх настаўнікаў:

1. Зняццю з работы падлягаюць тыя настаўнікі, якія нездавальняюча працуюць па сваёй малапісьменнасці і яўна не жадаюць павышаць сваю кваліфікацыю.

Падставай для зняцця такога настаўніка з работы з'яўляецца заключэнне аб яго рабоце ў школе з боку школьнага інструктара, загадчыка або дырэктара школы, аб рабоце па павышэнню кваліфікацыі і заключэнне з боку дырэктара няпоўна-сярэдняй або сярэдняй школы, да якой даны настаўнік прымацаван, або дырэктара педВНУ, педтэхнікума, у якім настаўнік лічыцца на завочным або вячэрнім аддзяленні.

Фактычнае зняцце настаўніка з работы ўтвараецца толькі пасля зацверджання РайгарАНА.

Школы павінны быць асвабоджаны ад такіх настаўнікаў на працягу 1934—35 навучальнага года, прычым гэта група работнікаў пазбаўляецца права на далейшую настаўніцкую работу ў якой-бы ні было другой школе да павышэння іх кваліфікацыі да неабходнага ўзроўню.

2. Асабліва чулыя адносіны РайгарАНА і райкомаў (гаркомаў) саюза Працасветы павінны быць праяўлены да настаўнікаў, скончыўшых кароткатэрміновыя курсы падрыхтоўкі настаўнікаў і дапушчаных да работы ў школе. Для гэтых настаўнікаў павінны быць створаны ўсе неабходныя ўмовы для сістэматычнага павышэння іх кваліфікацыі (безумоўнае забеспячэнне камплектам падручнікаў, заданнямі і кансультацыямі, прымацаванне вопытных настаўнікаў, дадатковыя заняткі і інш.) і толь-

кі пасля выкарыстання ўсіх сродкаў дапамогі і сродкаў грамадскага ўздзейнічання да такіх настаўнікаў можа быць ужыт закон ад 3 сакавіка 1934 года.

3. Для папярэджання розных злоўжыванняў у кожным паасобным выпадку павінны быць складзены РайгарАНА абгрунтаваныя заключэнні аб прычынах зняцця настаўнікаў з работы.

4. Знятаму з работы настаўніку даецца права абскардзіць рашэнне РайгарАНА ў Наркомасветы БССР і ЦП саюза Працасветы, указанні якіх падлягаюць перагляду справы настаўніка ў тым АНА, які вынес рашэнне аб зняцці яго з работы.

**НАМ. НАРКОМА АСВЕТЫ БССР АБРАМСОН.**

**СТАРШЫНЯ ПРЭЗІДЫУМА ЦП САЮЗА ПРАЦАСВЕТЫ ГРЫЦКЕВІЧ.**

---

# ЗАГАД № 1155

## *Па Народнаму камісарыяту асветы БССР.*
## *Г. Менск, 29 верасня* 1934 г.

## Аб стварэнні ўмоў для завочнага навучання

1. Асвабадзіць настаўнікаў-завочнікаў педінстытутаў і педтэхнікумаў ад курсавых форм павышэння кваліфікацыі пры ўмове, калі яны сістэматычна і акуратна (у тэрмін) выконваюць навучальныя планы і ўдзельнічаюць у склікаемых канферэнцыях і заліковых сесіях завочнікаў.

2. Устанавіць для завочнікаў, пражываючых на адлегласці 30 км і далей ад кансультацыйных пунктаў, абавязкова з'яўляцца для сістэматычных заняткаў на кансультпункты 1 раз у месяц на 2 дні (з асвабаджэннем ад вытворчасці і 1 выхадны).

Прапанаваць загадчыкам РайАНА замяніць настаўнікаў аднакамплектовых школ на гэты дзень настаўнікамі бліжэйшых многакамплектовых школ з тым, каб заняткі ў аднакамплектовых школах не зрываліся.

3. Загадчыкам завочных сектараў педнавучальных устаноў разам з загадчыкамі РайАНА ўстанавіць у раёнах сталыя адзіныя дні для заняткаў завочнікаў на кансультацыйных пунктах.

4. Загадчыкам РайАНА і ГарАНА забяспечыць настаўнікаў-завочнікаў транспартнымі сродкамі па грунтовай дарозе на склікаемыя кансультантамі і завочнымі сектарамі кансультацыі, вучэбныя канферэнцыі і заліковыя сесіі.

Абавязаць загадчыкаў РайгарАНА забяспечыць завочнікаў, выклікаемых на вучэбныя канферэнцыі і заліковыя сесіі, зарплатай наперад на ўвесь тэрмін прабывання завочніка на канферэнцыі заліковай сесіі.

**НАРОДНЫ КАМІСАР АСВЕТЫ БССР ЧАРНУШЭВІЧ.**

---

# ЗАГАД № 1269

## *Па Народнаму камісарыяту асветы БССР.*
## *Г. Менск, 2 лістапада* 1934 г.

Лічыць адчыненымі аднагадовыя курсы падрыхтоўкі настаўнікаў для пачатковых школ і аднагадовыя педкурсы для НСШ пры наступных раёнах:

1. Краснапольскім РайАНА — на

35 асоб з 20-X-34 г.

2. Клімавіцкім РайАНА—на 40 асоб з 20-X-34 г.

3. Чэрыкаўскім РайАНА—на 35 асоб з 20-X-34 г.

4. Горацкім РайАНА—на 70 асоб з 20-X-34 г.

5. Прапойскім РайАНА—на 35 асоб з 1-XI-34 г.

6. Камарынскім РайАНА—на 30 асоб з 1-XI-34 г.

7. Талачынскім РайАНА—на 40 асоб з 1-XI-34 г.

8. Пры Менскім педінстытуце на 32 асобы з 1-XI-34 г.

9. Пры Гомельскім педтэхнікуме на 25 асоб з 20-XI-34 г.

Прапанаваць начальніку планава-фінансавага аддзела даслаць указаным курсам крэдыты.

Упраўленню падрыхтоўкі настаўнікаў НКА забяспечыць курсантаў харчаваннем.

НАМ. НАРКОМА АСВЕТЫ БССР
**ЛЕШЧЫНСКІ.**

---

# ЗАГАД № 1236

*Па Народнаму камісарыяту асветы БССР.*
*Г. Менск 15 кастрычніка 1934 г.*

## Аб матэрыяльна-бытавым становішчы інтэрнатаў менскіх навучальных устаноў

З наведвання мною інтэрнатаў менскіх навучальных устаноў выявілася, што частка інтэрнатаў БДУ, Менскага педінстытута, Яўрэйскага педагагічнага і Дашкольнага тэхнікумаў знаходзяцца ў антысанітарным становішчы. На падлогах бруд, смецце, у пакоях інтэрнатаў практыкуецца мыццё бялізны, чыстка бульбы і т. д. На дварах інтэрнатаў кучы смецця, якія не ўбіраюцца, убор ныя ў надзвычайна дрэнным становішчы.

Усё гэта сведчыць аб тым, што кіраўніцтва навучальных устаноў нават пасля пастановы ЦК ВКП(б) аб Новачэркаскім інстытуце не павярнулася тварам да пытанняў матэрыяльна-бытавога абслугоўвання студэнтаў і не зразумела, што гэтыя пытанні маюць рашаючае значэнне ў справе замацавання студэнцтва па вучобе і ў забеспячэнні высокай якасці вучобы.

Загадваю:

1. Дырэктару менскага яўпедтэхнікума т. Новадворцу за недапушчальнае антысанітарнае становішча інтэрнатаў абвясціць вымову.

Намесніку дырэктара па гаспадарчай частцы т. Шапіра абвясціць суровую вымову.

2. Загадчыку сталовай Польпедтэхнікума т. Баршчэўскаму за антысанітарнае становішча памяшкання сталовай абвясціць суровую вымову.

3. Абавязаць дырэктароў педВНУ і тэхнікумаў і іх намеснікаў па навучальнай і гаспадарчай частцы рэгулярна наведваць інтэрнаты і сталовыя з тым, каб неадкладна выпраўляліся заўважаныя недахопы.

4. Разгарнуць шырокую растлумачальную работу ў мэтах барацьбы з маючыміся сабезаўскімі настроямі сярод часткі студэнцтва, дабіваючыся, каб кожны студэнт набыў неабходныя рэчы для койкі (прасціны, навалкі, надушку, коудру) і інш. дробныя рэчы штодзённага ўжытку (чайнік, шклянку, люстэрка, брытву).

5. Прапанаваць дырэктарам ВНУ і тэхнікумаў забяспечыць у інтэрнатах кіпяток раніцою і вечарам, пастаянную наяўнасць перавaранай вады, мыццё падлог не менш 1-га разу ў шасцідзёнку, уборку сіламі студэнтаў інтэрнатаў не менш 2-х раз у дзень і дэзінфекцыю інтэрнатаў не менш 3-х раз у год. Адзін

раз у шасцідзёнку выпыльваць матрацы і коўдры, а таксама мыць вокны.

6. На працягу двух дэкад забяспечыць інтэрнаты койкамі, матрацамі, шафамі або вешалкамі, крэсламі, тумбачкамі і занавескамі.

7. Неадкладна, шляхам арганізацыі суботнікаў, ачысціць і прывесці ў поўны парадак двары інтэрнатаў і сталовых.

8. У вялікіх інтэрнатах адвесці спецыяльныя пакоі адпачынку, забяспечыўшы іх настольнымі гульнямі, газетамі, журналамі і мастацкай літаратурай.

9. Катэгарычна забараніць у пакоях і калідорах мыццё бялізны, чыстку бульбы і т. д.

10. Палепшыць работу студэнцкіх сталовых шляхам устанаўлення цвёрдага рэжыма, барацьбы за абсалютную чыстату ў сталовых. Увесці абавязковае зніманне верхняй вопраткі, падачу ежы на стол, пакрыць сталы абрусамі, або кляёнкамі, аплпліць памяшканні сталовых.

11. Увесці абавязковае наведванне ўсімі студэнтамі лазні не менш 3-х разоў у месяц, строга кантралюючы выкананне гэтага.

12. Уключыць у барацьбу за парадак і чыстату прафесарска-выкладчыцкі склад. Не дапускаць прабывання ў аўдыторыях у верхнім адзенні, шапках, забараніць курэнне ў аўдыторыях і т. д.

13. Злосных парушальнікаў чыстаты і парадку ў інтэрнатах, сталовых, навучальных памяшканнях прыцягваць да суровай адказнасці шляхам накладання спагнанняў, зніжэння стыпендыі і выключэння з навучальнай установы. Абавязкова спалучаць гэтыя рэпрэсіўныя меры з шырокай растлумачальнай работай.

НАРОДНЫ КАМІСАР АСВЕТЫ БССР **ЧАРНУШЭВІЧ.**

---

# ЗАГАД № 1232

## *Па Народчаму камісарыяту асветы БССР. Г. Менск, 10 кастрычніка* **1934 г.**

## Аб перабудове работы дашкольных устаноў па новых праграмах

1. Праекты праграм для дашкольных устаноў выдання 1932 года адмяніць. Прыняць праграмы і ўнутраны распарадак дзіцячага сада, зацверджаныя НКА РСФСР 1-IX 1934 г.

2. Загадчыцы Дашкольнага аддзела т. Гендзінай скласці брыгаду для прыстасавання зацверджаных праграм адпаведна ўзросту, які ахватваецца дашкольнымі ўстановамі БССР (ад 4 да 7 год замест ад 3 да 8 год у РСФСР).

3. Абавязваю ДВБ, персанальна т. Жукава, безадкладна прыступіць да выдання новых праграм у колькасці 10.000 экземпляраў і забяспечыць тэрміновы выхад іх з друку.

4. Тав. Гендзінай асвятліць у друку памылкі старых праграм і прынцыпы пабудовы новых.

5. У сувязі з тым, што новыя праграмы адводзяць асаблівае значэнне дзіцячым цацкам, кніжкам, карцінкам, кукальнаму тэатру і інш., т. Гендзінай да 1-XI прадставіць мне план мерапрыемстваў па забеспячэнню дашкольных устаноў цацкамі, кніжкамі, кукальнымі тэатрамі, мэбляй, вучэбным абсталяваннем і інш. згодна патрабавання новых праграм.

6. Для давядзення новых праграм да кожнага работніка, правесці наступныя мерапрыемствы:

1) Нараду менскага актыва дашкольных устаноў — 15-X 1934 г.

2) Усебеларускія 10-дзённыя курсы-канферэнцыі дашкольных інспектароў і інструктароў-метадыстаў,

раздічаныя на 80 галзін, на якіх прапрацаваць наступныя пытанні: а) становішча і задачы дашкольнага выхавання; б) прынцыпы пабудовы новых праграм; в) прынцыпы планавання работы ў дашкольных установах у сувязі з новымі праграмамі; формы і метады, метадкіраўніцтва ў раёне. Тав. Зенькевічу без усякай чаргі правесці гэтыя курсы-канферэнцыі, выклікаўшы з Масквы метадыста па пытаннях планавання работы па новых праграмах. Начальніку кіраўніцтва справамі НКА т. Паляўцову забяспечыць канферэнцыю сталовай і гасцініцай. Тав. Бугімовічу выдаць 13.070 руб. неабходных для правядзення канферэнцый, згодна прыкладаемага каштарыса.

3. Правесці куставыя раённыя канферэнцыі ў 18-20 кустах са скліканнем усіх дашкольных работнікаў. Абслужыць усе кусты прадстаўнікамі Наркомасветы. Тав Гендзінай распрацаваць каляндарны план работы куставых канферэнцый. Загадчыкам РайАНА разгарнуць падрыхтоўчую работу і забяспечыць правядзенне куставых нарад.

7. У дапамогу масаваму дашкольнаму работніку па аўладанню работай па новых праграмах у кожным раёне выдзеліць узорны дзіцячы сад, забяспечыўшы яго адпаведным абсталяваннем, кваліфікаванымі работнікамі, для чаго прадугледзець павелічэнне іх бюджэта ў 1934 г. на 50 процантаў у параўнанні з масавымі дзіцячымі садамі.

8. Узорныя дзіцячыя сады выдзяляюцца ў наступных раёнах: Чэчэрск, Чырвонаполле, Терахоўка, Уваравічы, Талачына, Сіроціна, Прапойск, Нароўля, Крупкі, Клічаў, Карма, Камарын, Ельск, Глуск, Ветка, Берэзіна, Буда-Кашалёў.

9. У прамысловых цэнтрах (Орша, Бабруйск, Барысаў, Віцебск, Гомель, Дзержынск, Магілеў, Мозыр, Менск, Полацк, Рагачоў, Рэчыца, Слуцк) арганізаваць раённыя дашкольныя метадычныя габінеты.

Народны камісар асветы БССР
**ЧАРНУШЭВІЧ.**

---

# ЗАГАД № 1333

## *Па Народнаму камісарыяту асветы БССР, Г. Менск 9 лістапада 1934 года*

## Аб скарыстанні маючыхся ў бібліятэках падручнікаў і вучэбных дапаможнікаў па гісторыі

У мэтах аказання практычнай дапамогі выкладчыкам гісторыі ў іх выкладчыцкай рабоце загадваю:

1. Усім загадчыкам бібліятэк узяць на ўлік пералічаныя ў прыкладаемым спісу падручнікі па гісторыі і выдаваць іх для карыстання ў 1934-35 г. настаўнікам гісторыі няпоўнай і поўнай сярэдняй школы і выкладчыкам гісторыі ВНУ і тэхнікумаў.

2. Загадчыкам ГарфайАНА гг. Менска, Магілёва, Гомеля, Віцебска, Барысава, Рэчыцы, Оршы ў 2-дэкадны тэрмін устанавіць наяўнасць колькасці экземпляраў названых у спісе падручнікаў у бібліятэках і ўзяць іх на ўлік. Аб маючыхся ў масавых бібліятэках падручніках па гісторыі саставіць падрабязныя звесткі (з пералічэннем кожнай назвы) і прадаставіць Бібліятэчнаму ўпраўленню НКА.

3. Дырэктару Дзяржаўнай бібліятэкі імя Леніна прадставіць Бібліятэчнаму ўпраўленню ў 2-дэкадны тэрмін звесткі аб наяўнасці ў бібліятэцы і яе філіялах пералічаных у спісах падручнікаў гісторыі (усіх назваў).

4. Дырэктару Дзяржаўнага універсітэта і дырэктарам ВНУ ў

2-лэкадны тэрмін узяць на ўлік у бібліятэках універсітэта і ВНУ падручнікі па гісторыі, пералічаныя ў спісу і прадставіць спісы з указаннем кожнай назвы і колькасці экземпляраў у Бібліятэчнае ўпраўленне НКА.

5. Бібліятэчнаму ўпраўленню сумесна з школьным упраўленнем устанавіць парадак карыстання старымі падручнікамі гісторыі настаўнікамі НСШ і СШ, выкладчыкамі ВНУ і тэхнікумаў, працуючымі на перыферыі, з масавых, навуковых і вучэбных бібліятэк у парадку міжбібліятэчнага абанімента.

НАМ. НАРКОМА АСВЕТЫ БССР
**ЛЕШЧЫНСКІ.**

---

# СПИСОК УЧЕБНИКОВ ПО ИСТОРИИ

Проф. С. Ф. Платонов. Учебник русской истории для средней школы. Курс систематический. Спб. VIII. 490 стр.

Иванов К. А. Учебник русской истории (систематический курс для старших классов средних учебных заведений и для самообразования). Спб. Изд. 2-ое. 1908. с рисунками и генеалогическими таблицами. Стр. 437. VI. ц. 1 р. 40 к.

Скворцов. И. В. Русская история для старших классов средне-учебных заведений и для самообразования. Спб. 1907. Стр. IX. 643. ц. 1 р. 50 к.

Ефименко. А. Я. Преподавательница русской истории на Спб. высших женских курсах. Учебник русской истории для старших классов средн.-учебных заведений. Спб. 1909. стр. 2 неп. 445. ц. 1 р. 50 к.

Щепкина. Е. Краткий курс русской истории с древнейших времен до реформы XX века. 3-е издание, пересмотренное и дополненное. Спб. 1907. стр. 312. ц. 1 р.

Елпатьевский. К. Е. Учебник русской истории с приложением родословной и хронологической таблиц и указателя личных имен. 12-ое издание. Спб., 1909. стр. 477. ц. 1 р. 40 к., печатано без перемен с 9 издания 1904 г.

Катаев. Учебник русской истории. вып. I. изд. 2-е. М., 1909. стр. V. 123. ц. 50 к.; вып. II. М., 1908. стр. III. 263. ц. 80 к.; вып. III. М., 1910. стр. 252. ц. 80 коп.

Коваленский. Мих. Русская история для средней школы. Часть I. вып. I. Древнейшие времена. Киевская Русь. Новгородская земля. с 3 картами и 90 рис. в тексте. М., 1907. стр. V. 194. ц. 1 р. Часть I. вып. II. Западная Русь. Суздальская Русь. с 3 картами. 2 планами и 43 рис. в тексте. М., 1908. стр. VI, 212, ц. 1 руб.

Проф. Р. Зиппер. Учебник истории средних веков с историческими картами. 3-е издание. М., 1907. ц. 1 р. 25 к., стр. 293. 2 неп.

Его же. Учебник новой истории. С историческими картами. 2-е издание. М. 1907. стр. VIII. 513. ц. 1 р. 50 к.

Проф. Виппер. Учебник древней истории с рисунками и историческими картами. 3-е дополненное издание. М. 1904 стр. VI. 213. ц. 1 р.

Его же. Краткий учебник истории средних веков. С иллюстрациями и картами. М. 1911. стр. 2 неп. 142. ц. 75 к.

Проф. П. И. Кареев. Учебная книга древней истории. С историческими картами. Спб. 1908. стр. VI. 309. ц. 1 р. 35 к. в переплете.

Его же. Учебная книга средней истории. Спб., 1908. стр. VII. 236. ц. 1 р. 25 к. в переплете.

Его же. Учебная книга новой истории. Спб., 1908. стр. VIII, 388. ц. 1 р. 45 к. в переплете.

Проф. Виноградов. Учебник всеобщей истории. ч. I. Древний мир. 9-е издание. М. 1906. стр. IX. 186. ц. 60 к.; ч. II. Средние века. 7-е издание. М. 1903. стр. II. 197. ц. 90 к.; ч. III. Новое время. 8-е издание. М., 1905. стр. 245. ц. 90 к. (есть и более новые издания).

Иванов. К. А. История древнего мира. 6-е издание. с 64 рис. Спб., 1909. ц. 80 к.

Его же. История средних веков. Издание 7-ое. с 30 рис., Спб., 1909, ц. 80 к.

Его же. Новая история. Издание 4-е, с рис. Спб., 1909, ц. 80 к. (есть более новые издания).

Иванов, К. А. Восток и мифы (для 3-го класса гимназии) с 76 рисунками. Спб., 1904, стр. 197, ц. 75 к. (в 1909 г. вышло уже 4-ое издание).

Его же. Элементарный курс истории древнего мира (для реальных училищ) с 45 рис. Спб., 1903, стр. 164, ц. 60 к.

Его же. Элементарный курс истории средних веков (для реальных училищ) с 46 рис. Спб., 1904, стр. 148, ц. 60 к.

Иванов. Сокращенный курс новой истории (для реальных училищ) с 46 рис. Спб., 1906, стр. 214, ц. 75 к.

Досников. П. Древняя история. Учебник для средних классов средних учебных заведений, высших классов городских училищ по положению 1872 г. и торговых школ. С иллюстрациями. М. 1909, стр. VIII. 26, ц. 90 к.

Его же. История средних веков. Учебник для тех же классов что и древняя история. С иллюстрациями. М. 1909, стр. VIII. 290, ц. 90 к.

Его же. Новая история. Учебник для конских учебных заведений, учительских семинарий, и т. д., см. выше. С иллюстрациями. М., 1910, стр. 327, ц. 1 р.

Вульфиус. А. Г. учебник средней истории. Спб. 1909, стр. VII, 127, ц. 70 к.

Гуревич. История Греции и Рима (курс систематический). Спб. 1899, издание 7-ое исправленное. Стр. XVI. 258, ц. 1 р. (есть новейшие издания).

Добрынин. К. И. Древняя история. ч. I. Древний Восток и героическая Греция. Курс 3-х классов гимназии и реальных училищ. Издание 3-е М., 1910, стр. 170, ц. 80 к.

Его же Древний мир. (Восток. Греция и Рим. Курс 4-х классов мужских гимназий. М. 1910, стр. 244, ц. 80 к.

Его же. Древний мир (Восток, Греция и Рим) для реальных училищ и женских гимназий, с 68 рис., М. 1910, стр. 264, ц. 80 коп.

Мельгунов. П. Первые уроки истории (из бесед с учениками). Древний Восток. Издание 7-ое с 55 рисунками и картой. М. 1901, стр. XII, 282, ц. 1 р. 25 к.

Книга для чтения по истории средних веков, составленная кружком преподователей под редакцией проф. П. Виноградова, 4 тома (есть несколько изданий), ц. 1 р. 50 к., 3 р. 50 к.; 2 р.; 1 р. 75 к.

Книга для чтения по истории нового времени. Изд. Историческ. комиссии учебного отдела ОГТ. Зн., т. I. М. 1910. ц. 2 р. 75 к., стр. 627 и т. II. М., 1911, стр. 748, ц. 3 р. 25 к.

Гуревич и Павлович. Историческая хрестоматия по русской истории, том I и II. Спб. ц. 1 р. 75 к., 2 р. 25 к. Оба тома обнимают период русской истории до Петра Великого.

Гуревич. Историческая хрестоматия по русской истории, т. III. Спб., ц. 2 р. 50 к. (весь том посвящен Петру Великому).

Гуревич Историческая хрестоматия по новой и новейшей истории, ч. I и II. Спб. ц. 2 р. 50 к., 2 р.

Стасюлевич. История средних веков в ее описаниях и исследованиях новейших ученых. Спб. 3 тома (доведена до крестовых походов), ц. 2 р., 3 р., 3 р.

Острогорский. М. Хронологические таблицы по древней средней и новой истории. 3 тетради по 30 коп. (есть много изданий).

Кареев. С. Школьный исторический словарь. Состав. под. ред. П. М Кареева. Спб. 1906. стр. 470, ц. 2 р.

# ЗАГАД № 1338

*Па Народнаму камісарыяту асветы БССР г. Менск, 15 снежня* **1934 г.**

## Аб парадку назначэння загадчыкаў буйных раённых і гарадскіх бібліятэк НКА і праходжання імі кваліфікацыйнай камісіі

Выходзячы з пастановы ЦВК СССР ад 27-III 1934 г. «Аб бібліятэчнай справе ў СССР» загадваю:

1. Устанавіць, як правіла, зацверджанне на пасадзе загадчыкаў масавых раённых бібліятэк, загадчыкаў буйных гарадскіх бібліятэк (згодна прыкладаемага спіса) начальнікам Бібліятэчнага упраўлення НКА па прадстаўленню ў НКА на іх характарыстык адпаведнымі ГаррайАНА.

2. Арганізаваць у снежні г. г. праходжанне цэнтральнай кваліфікацыйнай камісіі НКА ўсімі загадчыкамі пералічаных у спісу бібліятэк і зацверджанне іх на пасадзе загадчыкаў.

ГаррайАНА к 10.XII 1934 г. дасладаць у НКА характарыстыкі на загадчыкаў бібліятэк, выдаўшы ім камандыровачныя пасведчанні на тэрмін, паказаны бібліятэчным упраўленнем НКА.

3. Бібліятэчнаму ўпраўленню цапярэдзіць персанальна кожнага загадчыка бібліятэкі аб парадку і тэрмінах праходжання імі цэнтральнай бібліятэчнай кваліфікацыйнай камісіі.

4. У далейшым пакінуць за РайАНА права прадстаўлення ў НКА на зацверджанне матэрыялаў аб прызначэнні, зняцці і пераводзе на іншую работу загадчыкаў паказаных у спісу бібліятэк.

НАМ. НАРКОМА АСВЕТЫ БССР
**ЛЕШЧЫНСКІ.**

---

## СПІС

бібліятэк, загадчыкі якіх назначаюцца на пасаду загадчыка начальнікам Бібліятэчнага ўпраўлення НКА і праходзяць цэнтральную кваліфікацыйную камісію, згодна загада Народнага камісара асветы ад 15-XI 1934 года.

1. Менская цэнтральная бібліятэка імя Пушкіна.

3. Гомельская яўрэйская бібліятэка імя Герцэна.

Гомельская яўрэйская бібліятэка.

4. Гомельская дзіцячая бібліятэка.

5. Новабеліцкая бібліятэка.

6. Віцебская цэнтральная бібліятэка «Дом кнігі».

7. Віцебская раённая бібліятэка.

8. Віцебская яўрэйская бібліятэка.

9. Віцебская дзіцячая бібліятэка.

10. Магілёўская цэнтральная бібліятэка.

11. Магілёўская яўрэйская бібліятэка.

12. Бабруйская цэнтральная бібліятэка.

13. Барысаўская цэнтральная бібліятэка.

14. Менская яўрэйская бібліятэка.

15. Аршанская цэнтральная бібліятэка.

16. Мазырская цэнтральная бібліятэка.

17. Полацкая цэнтральная бібліятэка.

18. Рэчыцкая цэнтральная бібліятэка.

19. Рагачоўская раённа-гарадская бібліятэка.

20. Мсціслаўская раённа-гарадская бібліятэка.
21. Шклоўская раённа-гарадская бібліятэка.
22. Быхаўская раённа-гарадская бібліятэка.
23. Дзержынская раённа-гарадская бібліятэка.
24. Клімавіцкая раённа-гарадская бібліятэка.
25. Крычаўская раённа-гарадская бібліятэка.
26. Слуцкая раённа-гарадская бібліятэка.
27. Горацкая раённа-гарадская бібліятэка.
28. Чэрвеньская раённа-гарадская бібліятэка.
29. Дубровенская раённа-гарадская бібліятэка.
30. Асіпавіцкая раённая бібліятэка.
31. Веткаўская раённая бібліятэка.
32. Гарадоцкая раённая бібліятэка.
33. Жлобінская раённая бібліятэка.
34. Лепельская раённая бібліятэка.
35. Петрыкаўская раённая бібліятэка.
36. Сенненская раённая бібліятэка.
37. Чавуская раённая бібліятэка.
38. Чэрыкаўская раённая бібліятэка.
39. Глуская раённая бібліятэка.
40. Бярэзінская раённая бібліятэка.



Адказны рэдактар Багуслаўскі.

Галоўл. № 2823. Зак. № 88. Тыр. 8000.

ДРУКАРНЯ „ЗВЯЗДЫ"—МЕНСК, 1935 г.